
У нумары: Насустрач IV з'езду БГКТ · КІТАБЫ · НОВЫ КОНКУРС



## РОДНЫ КРАЯВІД

**Не, мы не памыліліся. Гэта не экзатычная краіна. Здымак зроблены ў Белавежы і аўтарам яго з'яўляецца наш фотакарэспандэнт Коля Лес. Уся справа ў выбары тэмы.**



ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 20 (377) | ГОД VIII | 19 мая 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.



Пераехаўшы мост на Сакалдзе, пясчаная дарога крута падымаецца ўгору. Гэта і ёсць Копная Гара. (Паводле паданняў, гэтую крутую гару некалі пры пабудове дарогі раскопвалі. Адтуль і назва — Копная).

Мясцовасць прыгожая. Глянеш з гары на аколіцу — унізе рэчка бурліць, сенажаці зеленеюць, а вакол вялікі масіў Супрасльскай пушчы. Глуш. Цішыня, якую парушае толькі гул аўтобусаў, што рэгулярна даязджае ў Крынкі. Пяць разоў туды, пяць разоў назад у Беласток, і зноў ціха.

— Халера ўзяла б чалавека, калі б не было па вушы работы, — кажа Пятро Платніцкі, шэф надлясніцтва ў Копнай Гары.

— Затое колькі ж тут прыгажосці, — прабую пярэчыць. — Рака, лес, паветра. Мабыць, і стрэльбу маеце?...

— Глупства, — перабівае надляснічы. — Усё гэта добра тыдзень, два, ну — месяц. Але пасядзелі б вы тут гадзікаў дзесяць — ваўком завылі б. Уся ваша прыгажосць зрабілася б шэрасцю. Ці вы сабе ўяўляеце, што я ўжо тры гады ў кіно не быў? Аб тэатры забыў нават, як ён выглядае. Адзіная разрыўка — гэта газета. І тое не заўсёды ёсць час прачытаць. Прыдзеш вечарам дамоў, напхаеш жывот і ў пасцель клоніць. Раніцай, чуць свет прыдуць леснікі і рабочыя, не станеш у ложку ляжаць.

Вакол Копнай Гары па лесе раскіданы вёсачкі: Трасцяное, Казлоў Луг, Вярхлесе, Азярок, Равок, Бароўшчына, Лазніск. Тут людзі жывуць сваім, лясным жыццём. Лес для іх — уся гаспадарчая апора. Глеба ў большасці — жоўтыя пяскі. Не выціснеш з яе багатага ўраджаю. А лес расце добра. Надлясніцтва ў Копнай Гары не малое. Лясы, якія яму падлягаюць, займаюць плошчу каля 9 тысяч гектараў. Гэта адно з найбольшых надлясніцтваў Беласточчыны. Таму і зарабіць тут, ці зімой, ці летам, можна заўсёды.

— Надляснічы, чалавек нядрэнны, — кажуць. — Гарэлкі не п'е (з паўлітрам да яго не падыдзеш, каб аформіць лясную справу). Шчырую працу цэніць. Папрацуеш, не шкадуючы сіл, атрымаеш усё, што табе належыць. Не ўкруне.

— Найбольшая наша база, калі гаварыць аб рабочых, гэта вёска Вярхлессе, — кажа надляснічы. — На жыхараў гэтай вёскі заўсёды можна разлічваць. Яны ж найбольш і працуюць у лесе.

— Чуў я, што жыхары Вярхлесся не дрэнныя майстры і ў пакражы лесу.

— Ну, гэта ўжо лішняе, — запярэчыў надляснічы. — Вядома, ахвотнікі на добрую «штуку» заўсёды знайшліся б, каб леснікі не пільнавалі. Але сасна ці іншая драўніна, гэта вам не іголка. У кішэнь не схаваеш. А каму ж гэта рупіць пайсці на прымусовы адпачынак? За лес у нас караюць не абы як. Добра аб гэтым ведаюць жыхары лясных вёсак. Некалькі год таму назад былі ахвотнікі. Цяпер няма.

Пятро Платніцкі ўжо 11 год працуе надляснічым у Копнай

(Працяг на стар. 4)

## НАСУСТРАЧ IV З'ЕЗДУ БГКТ

# У ГУРТКУ ПА-ГАСПАДАРСКУ

**МІКАЛАЙ МІРУЦЬ — старшыня Прэзідыума ГРН у Юшкавым Грудзе.**

IV З'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства, які адбудзецца ў чэрвені, будзе несумненна, так як і папярэднія з'езды, немалой падзеяй у жыцці нашай нацыянальнай меншасці. Таварыства на працягу сваёй 7-мігадовай дзейнасці здабыло сярод беларусаў, пражываючых у Польшчы, а перш за ўсё сярод земляробаў Беласточчыны, поўныя правы грамадзянства. БГКТ прымае актыўны ўдзел не толькі ў культурным жыцці асяроддзя, але з кожным годам праяўляе ўсё большую актыўнасць і ў гаспадарчых справах вёскі. Мог бы я тут падаць шмат прыкладаў з нашай грамады ў Юшкавым Грудзе, як гурткі БГКТ з Баршчэва, Рыбакоў, Бяндзюгі і другіх вёсак непасрэдна ўдзельнічалі ў пабудове дарог, рамонце святліц, пасадцы дрэў ці другіх грамадскіх працах, але, па-мойму, не ў гэтым справа.

Як вынікае з артыкула сакратара ГП БГКТ тав. Уладзіміра Юзвюка, які запачаткаваў на старонках «Нівы» перадз'ездаўскую дыскусію, галоўны напрамак далейшай (пасляз'ездаўскай) дзейнасці БГКТ — гэта сельгасасвета. Па-мойму, такі напрамак як найбольш абгрунтаваны і як найбольш слушны. Разглядаючы дзейнасць таварыства на тэрыторыі нашай грамады,назіраецца нейкая аднабаковасць, завужанасць, я б сказаў абмежаванасць у гэтай працы. У гуртках БГКТ грамады Юшкаў Груд, калі не браць пад увагу рэдкіх выключэнняў, у асноўным моладзь.

— У чым жа справа? — скажаце. — Моладзь — гэта ж наша будучыня.

Слушна. Дарэчы, я і сам не стары. Але БГКТ — гэта не маладзёжная арганізацыя. Чаму ж тады ў гуртках таварыства людзі старэйшага ўзросту — рэдкасць? Мне выдаецца таму, што дагэтуляшняя дзейнасць гуртка не была ў стане поўнасцю зацікавіць старэйшага жыхара. Пастаноўкі п'ес (на жаль, гэта ўсё яшчэ асноўная дзейнасць большасці гурткоў) маглі зацікавіць толькі жменьку маладых людзей, якія маюць меншыя ці большыя артыстычныя здольнасці. Вясковага дзядзьку (ды і наогул людзей старэйшага ўзросту) п'еса можа зацікавіць толькі як гледача. Масава прымаць удзел у пастаноўках (як артысты) дзядзькі не будуць. Зрэшты, няма ў гэтым патрэбы. Што ж тады можа іх зацікавіць у дзейнасці БГКТ?

«...Гаспадаром, — піша ў сваім артыкуле Ул. Юзвюк, — далей з'яўляецца найчасцей 50—60 гадовы бацька, які ў сваёй маладосці не меў магчымасці вучыцца, а зараз таксама не паглыбляе сваіх ведаў з сучаснай агракультуры...»

Вось уся бяда ў тым, што не паглыбляе. Сучасная сельскагаспадарчая тэхніка ўсё шырэйшай плынню ўліваецца ў нашыя вёскі. У нашым, Беластоцкім павеце нядаўна сельгасгурток з Пянькоў закупіў 101-шы трактар з камплектам сельгасмашын. Сто трактараў на палях павета — гэта ж проста рэвалюцыя ў апрацоўцы зямлі. Як жа нашыя дзядзькі падрыхтаваныя да гэтай рэвалюцыі? Заахвочваць да карыстання трактараў на гаспадарцы няма патрэбы. Напрыклад, у вёсках нашай грамады, дзе існуюць сельгасгурткі, сяляне проста вырываюць з рук трактар, сварацца за першынства ворыва. Пераканаліся, што трактарам араць можна шмат лепш і танней, чым традыцыйнымі коньмі. Але колькі ж выпадкаў, што ў глебу, заараную трактарам, дзядзька кідае збажыну рукой з традыцыйнай каробкі. Так, паводле яго, больш эканомна. Ніводнае зерне не змарнуецца.

Практыка паказвае, што асноўная большасць нашых сялян зусім не падрыхтавана да поўнага выкарыстання сучаснай сельгастэхнікі, якая ўсё больш запаўняе сялянскія панадворкі. Ды і падрыхтавацца ім не заўсёды ёсць магчымасць. З грамадскім аграномам, які найбольш можа зрабіць у напрамку сельгаскультуры, селянін сустракаецца рэдка. Не будзе ж ён за кожнай справай ехаць у аграномку (дарэчы, не ўсюды яны яшчэ ёсць). Шмат спраў селянін мог бы даведацца з кніжкі. Але паспрабуйце знайсці сельскагаспадарчую кніжку з галіны хаця б агракультуры ў нашых бібліятэках! А калі яна дзе і паявіцца, дык і так земляроб з ёю не сутыкнецца, бо няма каму заахвоціць яго прачытаць такую кніжку.

На маю думку, гурткі БГКТ павінны быць усё больш звязаны, больш супрацоўнічаць не толькі з павятовым домам культуры, так як было дагэтуль, але з павятовым праўленнем сельскагаспадарчых гурткоў, грамадскім агрономам, заатэхнікам, ветэрынарам і наогул сельскагаспадарчымі ўладамі.

Часцей хацелася б на сходах гурткоў бачыць не толькі артыстаў папулярнай «Лявоніхі», якія, так сказаць, даюць прафесіянальныя парады нашым дамарослым артыстам, але таксама лектараў таварыства, спецыялістаў па сельскай гаспадарцы, якія падкажуць селяніну прачытаць карысную кніжку, дапамогуць поўнасцю выкарыстоўваць усё тое новае, што зараз ёсць у вёсцы.

У справы сельгасасветы, па-мойму, больш павінны ўмешвацца і нашыя настаўнікі. У гэтым напрамку яны ж могуць зрабіць не менш, чым, напрыклад, у руху мастацкай самадзейнасці нашых гурткоў.

Справа ў тым, каб у сходах гуртка была зацікаўлена не толькі моладзь, але каб сюды масава прыходзіў селянін — гаспадар, ведаючы, што можа тут па-дзелавому абмеркаваць свае гаспадарчыя справы.

Гэта, па-мойму, і ёсць тая больш шырэйшая, больш складаная дзейнасць нашага таварыства.

# ПОМНІКІ АРАБСКА-БЕЛАРУСКАЙ ПІСЬМЕННАСЦІ

Кітабы — загадкавыя кнігі... Пажоўклыя ад старасці старонкі ўсеяны дробненькай вяззю незразумелых літар, нагадваючых сабою пакрышаны тытунь. Такія кніжкі належаць у наш час да вялікай рэдкасці на Беласточчыне, і іх знаходка з'яўляецца значнай падзеяй у навуцы. Пісьмо тут арабскае, ды і самая назва — «кітаб» — арабскага паходжання. Яна проста азначае «кнігу».

Адкуль узяліся гэтыя кнігі на нашых славянскіх землях і што супольнага маюць з беларускай пісьменнасцю? Раней, чым адказаць на гэтае пытанне, звернемся ў бок гісторыі. Яна нам многа высветліць.

На пераломе XIV—XV ст. ст. на былой тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага паявіліся прышэльцы з мусульманскага ўсходу — татары. Частку іх складалі палоннікі, якіх бралі ў няволю ў час шматлікіх войнаў літоўскія князі, а частку — перабежчыкі з Залатой Арды, шукаючыя спакойнага, аселага жыцця. Літоўскія князі, а пазней польскія каралі акружалі гэтае насельніцтва апекай, дазвалялі будаваць мячэці, захоўваць свае звычаі, сваю рэлігію. Цікавым, напрыклад, з'яўляецца факт, што татарскім пасяленцам літоўскія князі гарантавалі нават права карыстацца Каранам як юрыдычнай кнігай. На працягу некалькіх статоддзяў — больш-менш да канца XVI ст. — царкоўныя кнігі пісаліся выключна на літургічнай арабскай мове. Аднак з часам гэтая мова забывалася і на яе месца ў паасобных выпадках уваходзіла беларуская. Некаторыя татарскія пісцы захоўвалі ўжо толькі арабскі шрыфт, намагаючыся прыстасаваць яго да асаблівасцей тагачаснай беларускай мовы, якой мусульманскае насельніцтва шырока карысталася. Такім чынам паступова пачалі ўзнікаць беларускія тэксты, аднак устроеныя перад неазнаёмленым вокам пад арабскімі літарамі. Сярод мусульманскіх рукапісных кніг параўнальна найбольшую цікавасць прадстаўляюць менавіта кітабы.

Кітабы не маюць вузка рэлігійнага характару. У іх знаходзім апавяданні, адлюстроўваючыя эпізоды з жыцця Магамета, апісанні абрадаў, легенды, а нават павучальныя апавяданні. Час ад часу выступаюць у гэтых рукапісах, зразумела, і літургічныя тэксты. Кітабы пісаліся, а ўласна кажучы, перапісваліся са старэйшых арыгіналаў. Такая праца нярэдка працягвалася гадамі. Пісец часта дапаўняў старыя тэксты новымі і такім шляхам пакідаў у кнізе прыкметны след таго часу, у якім жыў. Разам з тым у кітабе замацоўваліся ўсе характэрныя асаблівасці і рысы даўняй народнай гаворкі. Таму да сённяшняга дня не перастаюць гэтыя рукапісы быць часта адзінай і непаўторнай крыніцай нашых ведаў аб выглядзе колішняй беларускай мовы.

Ужо звыш ста год мусульманская рукапісная спадчына прыцягвае ўвагу навукі. Аднак больш сур'ёзна заняліся ёю даследчыкі ў наш час. Сярод іх перш за ўсё прыгадаем выдатнага вучонага і заснавальніка сучаснага беларускага моваЗнаўства Яфіма Карскага, а таксама савецкага арэбіста Ігнацыя Крачкоўскага — аўтара вядомай у Польшчы кнігі п.з. «Над арабскімі рукапісамі», якая з'явілася ў 1952 г. у перакладзе Ананіяша Заянчкоўскага. У Савецкай Беларусі мусульманскімі рукапісамі займаліся Вольскі і Шлюбскі. Зараз у Вільні вывучае гэтую спадчыну Антон Антановіч. Ён падрыхтоўвае спецыяльную працу аб кітабах да Кангрэса славістаў у Сафіі, які адбудзецца ў гэтым годзе.

Перад апошняй вайною адным з найстарэйшых мусульманскіх рукапісаў у Польшчы лічыўся кітаб мячэці ў Крушынянах з 1779 года. У ім, побач з літургічнымі тэкстамі, змешчаны і апавяданні свецкага, павучальнага характару. Адно з іх у вобразнай форме гаворыць аб вялікай шкоднасці п'янства. Прыгадаем гэтае апавяданне з усімі тагачаснымі асаблівасцямі беларускай мовы, на якой яно і напісана:

«Быв адзін Абід багамольца ненавчоный; ішов да мечыці; міма карчмы дарога была; карчмарка выслала дзевку, парвала Абіда у хату. Скорэ той Абід увайшов у карчму, ена дзверы замкнула. Ав тае карчмаркі адно дзіця было. Карчмарка мовіла: «Эй, Абід! не выпушчу цябе калі ты адзін куфель гарэлкі не вып'еш, або за мною волю не учыніш, або дзіця не заб'еш. Калі з тых трох рэчэй адно не ўчыніш, то цябе не выпушчу, крыкну: гвалт! скажу: Абід мне згвалціў.

Абід тое слова чувшы, мыслев: «з нёй блуд учыніць — трудно да мечы-

(Працяг на стар. 5)



На здымку: Рэпрадукцыя старонкі кітаба з 1631 года, знойдзенага ў 1961 годзе на Беласточчыне.

Фота: А. Здрадоўскі

# АБМЯРКОЎВАЕМ „ЛЯВОНІХУ"

Эстрада «Лявоніха» дзейнічае ўжо 3 гады. Каб даць магчымасць нашай грамадскасці выказацца шырэй аб працы гэтага калектыва, ГП БГКТ аб'яўляе анкету «Абмяркоўваем «Лявоніху». Сярод удзельнікаў карэспандэнцыйнай абмяркоўкі будзе разлясавана 20 кніжных узнагарод.

Свае выказванні дасылайце на адрас:
ZG BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11.

Анкетныя адказы можна дапоўніць сваімі заўвагамі.

Тэрмін дасылання адказаў канчаецца 15 чэрвеня г.г.

## АНКЕТА

1. Калі Вы былі на канцэрце «Лявоніхі»?

..............................................................................

2. Як ацэньваеце праграму «Лявоніхі»? (вельмі добрая, добрая, пасрэдная, дрэнная, вельмі дрэнная). Адпаведнае падкрэсліць.

..............................................................................

3. Што Вам найбольш спадабалася? (канферанс, песні, частушкі, музыка, танцы, гумар, сатыра). Адпаведнае падкрэсліць.

..............................................................................

4. Што Вы думаеце аб арганізацыі канцэртаў?

а) ці канцэрт адбыўся ў вызначаныя гадзіны? (так — не).

..............................................................................

б) ці быў парадак пры продажу білетаў? (так — не).

..............................................................................

в) калі Вы даведаліся аб прыездзе «Лявоніхі»? (Некалькі дзён перад канцэртам? У апошні дзень? У час прыезду эстрады?).

..............................................................................

г) ці быў належны парадак у час выступлення артыстаў? (так — не). Адпаведнае падкрэсліць.

..............................................................................

5. Колькі Вам год, Ваша прафесія і дакладны адрас.

..............................................................................

..............................................................................

..............................................................................

---

Поезд спыніўся. У кожнага вагона стаяла па некалькі салдат з аўтаматамі.

У поездзе быў пасажырскі вагон. З яго выскачыў малады афіцэр з пагонамі штурмфюрэра. Ён і Кранц паціснулі адзін другому рукі.

— Ну, — сказаў Кранц, — каго прывезлі на гэты раз?

— Яўрэі з Венгрыі.

— Колькі?

— Дзве з палавінай тысячы галоў.

Эсэсаўцы збілі з дзвярэй цяплушак дрот. Дзверы рассунуліся. З вагонаў пасыпаліся людзі.

Пайшлі ў рух дубінкі эсэсаўцаў. Не даючы вязням апамятацца, іх пачалі зганяць у вялікі ачэплены салдатамі круг. Група эсэсаўцаў прыкладамі карабінаў аддзяляла маладых і моцных мужчын. Такіх набралася чалавек трыста. Іх пастроілі і адвялі.

Астатніх пагналі да велізарнага цаглянага будынка, на франтоне якога было выведзена: «Бад» (лазня).

Мінут праз дваццаць людзі былі загнаны ў памяшканне. За імі зачыніліся цяжкія металічныя дзверы.

Падышоў усміхаючыся гаўптштурмфюрэр Кранц.

— Ну, — сказаў ён, глянуўшы на гадзіннік, — як бачыце, я не хвастаўся: прайшло толькі сорак пяць мінут і ўсё. І ніякіх эксцэсаў, трагедый.

— Яны ўсе... адразу? — прамармытаў Кюметц.

Кранц рассмяяўся.

131

— Гэта ж абсалютна безбалесна. Зачыняюць дзверы, уключаюць газ. Наступае стан прыемнага здрантвення. Ён пераходзіць у сон. І — усё скончана: ты ўжо ў райскіх шатрах!

✲

Аскер усю ноч не мог заснуць. Раніцай, калі ён накіраваўся да сваёй машыны, побач яе ўбачыў бліскучы «Мерседас». У сярэдзіне быў і шафёр. Аскер прадставіўся.

— Фрыц Фітэрман, — назваў сябе той і спытаў: — Нядаўна тут?

— Так. Учора прывёз гаспадара. Сябра групенфюрэра Упіца. Чулі аб такім?

Шафёр кіўнуў.

— Здалёк?

— З Гамбурга.

— Далёка забраліся. Сур'ёзная справа?

— Не ведаю. — Аскер паціснуў плячыма. — Здаецца, за людзьмі. — Ён выняў сігарэты, пачаставаў шафёра. — А ты каго возіш?

— Памочніка каменданта.

— Лоўка. — Аскер хлопнуў Фітэрмана па плячы. — Да яго мы і прыехалі. Гаспадар напэўна цяпер у яго.

Кюметц і сапраўды быў ужо ў Кранца. Яны неўзабаве з'явіліся ля машыны. Дырэктар быў задаволены, усміхаўся, жартаваў Ён і Кранц голасна гутарылі. З іх размовы Аскер зразумеў, што першыя дзвесці рабочых ужо выбраны, а сёння дабяруць астатніх. З гэтай мэтай Кюметц і Кранц едуць цяпер у зону, дзе размешчаны палонныя з усходу.

132

Яны селі ў машыну Кранца.

— Паедзеце з намі, — сказаў Кюметц да Аскера. — Паможаце: нам трэба некалькі шафёраў і механікаў.

Аскер сеў побач з Фітэрманам.

Паездка цягнулася доўга — лагер быў раскіданы на вялікай тэрыторыі. Пабывалі ў блоках, дзе трымалі чэхаў, палякаў, сербаў, славакаў.

Нарэшце, гэта частка лагера засталася ззаду. Машына выехала на дарогу.

— Да рускіх, — даў загад Кранц.

Фітэрман накіраваў машыну ў бок, дзе сумна бялелі пабудовы. Гэта былі блокі савецкіх ваеннапалонных.

Машыну памочніка каменданта лагера ведалі. Вароты адчыніліся, і яна ўехала ў зону. Фітэрману давялося тут жа з'ехаць убок — насустрач рухалася вялікая калона зняволеных.

Адзін з суправаджаючых калону эсэсаўцаў адсалютаваў Кранцу фашысцкім прывітаннем.

— Песню, — скамандаваў ён палонным, жадаючы зрабіць прыемнасць начальству. — Спяваць песню, вы, быдла!

Палонныя зацягнулі:

(Працяг на стар. 4)

133

**З ПІСЕМ ЗЕМЛЯКОЎ**

# УЦЕХА З БЯДЫ НАДЗІНАЙ...

Усе загаварылі пра Надзіны рамансы з Супруном, работнікам тым, што ўвосень прыбіўся неяк да нашай вёскі і ўнаймы па гаспадарах зіму прахадзіў. Ён мужчына не стары ды дзікаваты надта, сіратою па свеце здаўна швэндаецца, такі лапатун бесталковы. Усё яму мусіць штосьці не падабацца ў кагосьці: то зашмат канюшыны даюць у сечку каровам, то аўсом коней залішне кормяць, то свіней больш трымаць трэба, бо капітал на іх магчымасць ёсць узбіраць вялікі. А ў масленіцу Супрун памагаў Надзі авёс вымалаціць дарэшты, сама адна на гаспадарцы, хаця і невялікай, усяго парабіць не паспела. Зінка малая, яе дачка няшлюбная, доўга хварэла. Прабыў у яе Супрун тыдзень, застаўся і да другой нядзелі, а потым нікуды ўжо не паказваўся. Усё на падворку Надзіным парадкі наводзіў, дроў крыху нарубаў пад паветкаю, пехатою ў аптэку мястэчковую хадзіў па лякарствы для Зінкі і каторагась дня, пазычыўшы каня, у млын выбраўся муку малоць. Значыць, прыліп чалавек да бабы маладой, хоць і з дзіцём. Нашто, маўляў, шукаць шчасця другога па свеце белым?..

Цёткі з маладзіцамі пасміхаліся вечарамі, што Надзя, пэўне, ужо замуж выйшла нарэшце за Супруна ў гэтакі час доўгі, няйначай, на Каляды другія хрысціны спраўляць прыдзецца. А мужчыны нашы, як мужчыны — свае плёткі маюць і яшчэ зіма гэта не скончылася, а другой ужо чакаюць, каб гаглядзець, як Супрун пачне марыць голадам сябе, Надзю, дзетку чужую і худобіну ўсенькую; відаць, скнэра з яго страшэнны ды на зямлі не знаецца, толькі другіх павучаць прывык, што — там нядобра, тут нядобра, гэтак нядобра! Адзін ён, Супрун, разумны знайшоўся, прыблуда абарваны!

Перад Вялікаднем, ля царквы, прызналася Надзя шчыра перад суседкамі цікавымі, што, мабыць, запішуцца незадоўга з Супруном, бо ён усё дурыць ёй галаву, каб жонкаю ягонаю стала, разам зажыць, гаспадарку на ногі паставіць. Нічога, што з яго валакіта быў бяздомны, сын парабка даўнейшага, але абрыдла яму па будовах вапну мяшаць, у гарадах абману рознага зажыў — зямлю любіць, гаспадарку любіць моцна, таму і на вёскі падаўся. Што праўда, хітрасці мала мае, жыць з ім труднавата будзе, аднак на гаспадарцы патрэбны рукі моцныя мужчынскія. Прытым, пахарашэў цяпер ён на месцы адным, як не кажы, апека мужчыне патрэбна. Мужык з яго нябрыдкі вельмі ўжо, а далей яна, Надзя, пакіруе ім, нябось, каб добра было. І спакойны ён, і не сварлівы, а паслушны, што не папросіш, усянютка зробіць. Не курыць, не п'е...

Разгаварылася Надзя пра Супруна свайго, аж кабеціны пазайздросцілі ёй, і ніхто больш не гаварыў ні аб чым іншым з тых пор, як аб тым, ці доўга Супрун нагадуе дзіця не сваё, калі даваецца пра Надзіны заляцанкі кавалерскія з хлопцамі распуснымі. А яна, напэўна, у нічым не прызнавалася перад ім, разяваю гэткаю!

Першым днём Вялікадня, не ведаю добра папраўдзе, як гэта здарылася, але даволі, што той Васіль, кавалер былы Надзін, які аліменты плаціць ёй на Зінку, перапыніў п'яным на вуліцы Супруна ды з нажом скочыў да яго біцца, усё роўна, бы апантаны. І пагнаўся за Супруном далёка за вёску, і лаяўся ўслед ад апошніх. Так ці іначай, Супрун не паявіўся ўжо болей, хаця і не дагнаў яго Васіль, гарэлкаю аслаблены. Уся вуліца рагатала праз цэлы ранак святочны...

Што Васілю стрэльнула ў лоб, а мо' людскімі падсмешкамі пераняўся, чорт яго ведае!? Бо ж яго жонка многадзетная безустанку сварылася з Васілём за тое, што нібы і надалей да Надзі заходзіць папоцемку. А цяпер нічога, не сварыцца, якаясьці як бы задаволеная сама смяецца, калі аб усім гэтым расказваць пачынаюць. Скаліць зубы і цешыцца, бы сыр зглядзеўшы, што Надзі не быць ужо ніколі гаспадыняю; што ў старых дзеўках паміраць ёй з дзіцём няшлюбным, і нат «качайкаю» празвала яе, і ўсякімі яшчэ агіднейшымі словамі...

А людзям адна ўцеха з бяды Надзінай ды ўсё на жывот яе пазіраюць. Каб маглі, дык жывым у зямлю закапалі б чалавека. І што яна каму зрабіла кепскага, хаця б і Васілю гэтаму мсціваму!?

**АДОЛЬ КАСТРЫЦА**

# МІХАЛОЎСКАЯ СТАЛЯРНЯ

Міхалоўская сталярня — невялікае прадпрыемства. У ім працуе толькі дзесяць чалавек. Але не гледзячы на тое, што там несучаснае, старое абсталяванне і стары машынны парк, аднак прадукцыя сталярні даволі добрая. Заказы на дзверы і вокны паступаюць не толькі з Міхалова, навакольных і адлеглых вёсак, але нават і з Беластока. Сталярня выконвае таксама рамонты будынкаў. Кожны месяц яна дае прадукцыю на 50 тысяч злотых.

Міхалоўская сталярня дае яшчэ такую прадукцыю і выконвае такія паслугі, якімі рэдка якія сталярні займаюцца. А менавіта вырабляюцца і рамантуюцца там тапчаны і канапы. Гэта дзялянка працы належыць да Ёзіка Зіневіча.

Гаўрыла Сляднёў таксама займаецца спецыфічнай прадукцыяй. Яго ўсе вырабы з ракіты (віклiны). Робіць ён з ракіты малыя кошычкі да смецця і да кветак, а таксама вялікія кошыкі на буракі, бульбу, грыбы. і інш. Нядаўна нават Варшава заказала 730 розных кошыкаў.

Гаўрыла Сляднёў кожны месяц выплятае 120—130 кошыкаў. За мінулы год зрабіў ён звыш 2 тысяч штук.

Такім чынам Міхалоўская сталярня, якой кіруе Мікола Лукашэвіч, працуе добра і робіцца ўсё больш папулярнай.

**МХ**



На здымку: кошычак вырабу Гаўрылы Сляднёва.

# ПОМНІК

(Працяг са стар. 1)

Гары. За гэты час ён пазнаў свае лясныя кварталы як уласную кішэнь. Ведае, у якім месцы будзе лепш расці сасна, у якім бяроза. Найбольш працы і клопатаў надлясніцтва ўкладае ў пасадку новага лесу.

— Сёлета, — гаворыць надляснічы, — мы пасадзім новы лес на плошчы 154 гектараў. На плошчы звыш 70 гектараў будуць нанесены папраўкі ў пасадках.

Надлясніцтва ў Копнай Гары праводзіць пасадку лесу і на прыватных землях (няўгоддзях) паасобных вёсак. А такіх на Сакольшчыне нямала. Сёлета, напрыклад, будзе пасаджана звыш 90 гектараў лесу ў аколіцах вёсак Сухінічы і Каменка.

— А колькі трэба саджанцаў, каб залясіць гектар зямлі? — пытаю.

— Прыблізна 14 тысяч. З гэтых саджанцаў недзе за 140 гадоў можа вырасці 500 кубічных метраў дрэва.

— Толькі за 140 гадоў? — пытаю са здзіўленнем.

— А што вы думалі? Лес — гэта не жыта. Спілаваць сасну раз-два можна. Але пакуль яе вырасціць, дык унуку вашаму хутчэй барада па пояс вырасце. Уся трагедыя нашай прафесіі заключаецца ў тым, — прадаўжаў надляснічы, — што мы не можам захапляцца вынікамі сваёй працы, непасрэдна карыстацца імі. Будаўнічы паставіць новы, прыгожы дом і захапляецца ў душы, гледзячы на яго. На такі дом прыемна паглядзець і прахожаму. Спадабаецца яму, ён і запытае: хто ж гэта пабудаваў такога прыгажуна? Слава аб будаўнічым далёка пойдзе. А хто ж стане захапляцца, напрыклад, 10-цігадовым ельнікам ці сасняком? Нават зайсці ў яго не захоча. Тут ні ягада, ні грыбок яшчэ не расце! Калі пройдзе 150 год і з мізэрнага сасняку стане сасновы бор, людзі ахвотна сюды пойдуць. І за ягадай, і за грыбом, і за звярынай, і ўрэшце за добрым матэрыялам. Але ці запытаюцца яны, хто пасадзіў гэты бор?

Роздумы надляснічага спыніліся разам з машынай. Мы прыехалі ў аколіцу Казловага Лугу на вялікую, плошчай у некалькі гектараў паляну, пасля вырубанага лесу. Вакол яе сцяною стаяў сасновы бор. На паляне капашыліся жанчыны. Адны рытмічна нагіналіся, нешта кідаючы ў глебу, другія, ідучы за імі, прытоптвалі нагамі. З боку гледзячы на іх, стваралася ўражанне, што людзі гэтыя выконваюць нейкі дзіўосны, рытуальны танец. А яны проста сеялі лес. У тых, што нагіналіся, у руках кубачкі напоўненыя чырваннію. Зярняты. З іх вырасце лес. За 150 гадоў. Як тады будзе выглядаць жыццё на зямлі? Як будуць жыць людзі ў Копнай Гары, Казловым Лузе, Вярхлессі ці Лазніску? Што будуць будаваць з гэтага лесу? Мо' караблі, што паплывуць у далёкі Кітай, Індыю ці гарачую Афрыку? А мо' нейкія будыніны на месячнай станцыі? Хто ведае? А чаму, напрыклад, не прыехаць сюды на адпачынак групе касманаўтаў, якія толькі што вярнуліся са свайго чарговага рэйсу на Марс або Венеру. Паветра ў сасновым бары захапляючае. І баравікі — чарнагаловікі — што пальцы лізаць!

Ва ўсякім выпадку на месцы працы гэтых людзей вырасце прыгожы, трывалы помнік. Лес.

**В. БАРШЧЭЎСКІ**

(Працяг са стар. 3)

Калі ўвесь свет будзе ляжаць у руінах,
Да д'ябла, нам на гэта напляваць.
Мы ўсё роўна будзем маршыраваць далей,
Таму што сёння да нас належыць Германія,
Заўтра — увесь свет.

Спяванне фашысцкіх песняў было адным са звенняў доўгага ланцуга ўніжэнняў, які тут спецыяльна распрацавалі для савецкіх людзей.

Машына абагнула групу баракаў і затрымалася непадалёку ад крайняга будынка. Тут пачыналася шырокая плошча.

На ёй неўзабаве выстраілі васемсот савецкіх ваеннапалонных.

— Пачынайце, — скамандаваў Кранц.

Шарфюрэр, які трымаў стопку ружовых картачак, заглянуў у адну з іх і выкрыкнуў доўгі нумар.

Са строю выйшаў палонны.

Слесар, — сказаў шарфюрэр, павярнуўшы да Кюметца галаву.

— Губэ, — сказаў дырэктар, — памацайце яму рукі і плечы.

Аскер выканаў загад.

— Прысядзь! — скамандаваў Кюметц.

Палонны не паварушыўся.

— Прысесці!, — крыкнуў па-руску шарфюрэр.

Лагернік паслухмяна сагнуў ногі.

— Бяру, — сказаў Кюметц.

Шарфюрэр кіўнуў і перадаў картачку палоннага эсэсаўцу, які стаяў побач.

134

Потым ён выклікаў наступны нумар. Са строю выйшаў новы палонны. Цяпер гэта быў механік. Паўтарылася тая ж працэдура, і шарфюрэр перадаў эсэсаўцу другую картачку.

Трэцім строй пакінуў хлапец год дваццаці пяці.

— Токар, — аб'явіў шарфюрэр.

— Не! — засупярэчыў хлапец.

Кюметц пытальна паглядзеў на шарфюрэра. Той зноў заглянуў у картачку.

— Токар, — пацвердзіў ён.

— Не! — зноў сказаў палонны.

— А хто ты ёсць? — ціха, з пагрозай спытаў Кранц па-руску.

Палонны паказаў рукамі, як працуюць лапатай.

— Ясна. — Кранц нацягнуў на руку пальчатку, падыйшоў і кароткім ударам у твар зваліў палоннага.

— Устаць! — загадаў ён.

Лагернік падняўся. Твар яго быў у крыві, падбародак дрыжаў.

— Хто ты ёсць? — паўтарыў Кранц і выняў пісталет.

Палонны стаяў і свідраваў фашыста вачыма. Кранц падняў пісталет і выстраліў.

Як ні намагаўся Аскер не выдаць настрою, які цяпер бушаваў у ім, усё-такі Кюметц прыкмеціў, што яго шафёр усхваляваны.

— Вы пабялелі, Губэ! — насмешліва сказаў ён.

Аскер паціснуў плячыма.

— Да гэтага трэба прызвычаіцца, пане дырэктар, — прамармытаў ён.

135

— Нічога не зробіш, — сказаў Кюметц. — Так трэба.

— Неабходна, — пацвердзіў Кранц. — Мы даскарала ведалі, што ён хлусіў. Хлусіў, бо не хацеў працаваць.

Шарфюрэр выкрыкнуў чарговы нумар. Аскер падыйшоў да новага палоннага, абмацаваў яго рукі, плечы. Але рабіў гэта механічна. Яго ўвага была прыкавана да суседа. Дзесьці ўжо бачыў Аскер гэтага рослага чалавека. Але дзе? Кюметц таксама звярнуў увагу на гэтага волата.

— Добры, — сказаў ён і, тыцнуўшы пальцам у грудзі таго, пытальна зірнуў на Кранца.

— Які ёсць твой нумар? — крыкнуў Кранц.

Палонны сказаў. Пры першых жа гуках яго голасу Аскер устрасянуўся. Ён пазнаў: Аўдзееў!.. Сяржант Аўдзееў!

...Гэта здарылася год назад на Украіне. З групай дывізійных разведчыкаў Аскер выконваў важнае заданне ў блізкім тыле ворага. Вораг намацаў іх і пачаў абкружваць. Як выратаваць групу, адкрыць ёй шлях на ўсход, каб яна магла даставіць важныя звесткі? Аскер і двое байцоў адцягнулі ўвагу праціўніка, прыняўшы ўдар на сябе. Гэта дазволіла групе выйсці. Камандаваў ёю сяржант Аўдзееў.

Але як ён апынуўся ў палоне? Пасля ж Керымаў даведаўся, што данясенне дастаўлена; ён быў упэўнены, што дабраўся да сваіх і Аўдзееў... І вось — сяржант перад ім.

(Працяг на стар. 5)

136

# ГЭТА КАРЫСНА ЗАПОМНІЦЬ

**Самая вялікая бібліятэка ў свеце — Ленінская бібліятэка ў Маскве. Яна налічвае 22 мільёны кніг на 173 мовах, у тым ліку на 89 мовах народаў СССР.**

*

**Самай маленькай бібліятэкай у свеце лічыцца бібліятэка ў індыйскім горадзе Амрытсары, дзе захоўваецца адна свяшчэнная кніга.**

*

**Самая вялікая кніга ў свеце — старажытны летапіс, высечаны на сценах храма ў Фівах (Грэцыя). Каменныя старонкі гэтага летапісу дасягаюць 40 метраў у шырыню.**

*

**Найбольшая колькасць папяровых старонак у Кітайскай Энцыклапедыі XVII века — у ёй 853.456 старонак.**

*

**Самай маленькай можна лічыць кніжку, якая выдадзена ў 1896 годзе ў Падуі (Італія). У ёй надрукавана пісьмо Галілея. Размер кнігі-малюткі — 16x11 міліметраў.**

# АПЕРАЦЫЯ З АДКЛЮЧАНЫМ МОЗГАМ

Дасягненні сучаснай хірургіі адкрылі доступ да сэрца чалавека. Тысячы людзей з прыроджанымі і набытымі парокамі сэрца былі вылечаны з дапамогай скальпеля. Хірургі пачалі шырока прымяняць гіпатэрмію — штучнае паніжэнне тэмпературы цела хворага перад аперацыяй. Пры ахаладжэнні замаруджваюцца жыццёва важныя біяхімічныя працэсы, якія адбываюцца ў арганізме, клеткі патрабуюць менш кіслароду. Значыць, без асаблівай шкоды для хворага можна скараціць прыток крыві і нават часова спыніць яго. Змяншаецца і небяспека вялікай страты крыві. Аднак гіпатэрмія — цяжкае выпрабаванне для арганізма, які і без таго аслаблены цяжкай хваробай. Яна можа пацягнуць за сабой сур'ёзныя пасляаперацыйныя ўскладненні, і чалавека з вылечаным сэрцам прыдзецца зноў лячыць.

Логіка тэорыі і шматгадовы шлях эксперыментаў на жывёлах дазволілі вядучаму савецкаму хірургу прафесару Аляксандру Вішнеўскаму, прафесару анестэзіёлагу Тыграну Дарбіняну і ўрачу Уладзіміру Партному зрабіць вывад: пры аперацыі на сэрца больш мэтазгодна ізаляваць галоўны мозг ад агульнай сістэмы кровазвароту.

Гэта адкрыццё сапраўды фантастычнае: штучнае кровазабеспячэнне галавы і клінічная смерць тулава, у час якой скальпель бесперашкодна ўхіляе дэфект на цёплым, часова «бяздыханным» сэрцы. Пасля заканчэння аперацыі, артэрыі, якія вядуць да галоўнага мозгу, зноў уступаюць у работу, і арганізм ажывае.

І вось — методыка аперацыі распрацавана да тонкасцей.

На аперацыйным стале дваццацідвухгадовая Галіна Блінава, якая пакутуе ад звужэння лёгачнай артэрыі. Аляксандр Вішнеўскі ўскрывае грудную поласць, падключае мініятурную сістэму штучнага кровазвароту мозгу ўсяго на 0,5 літра крыві. Цяпер чуваць толькі мерны рытм удара ў «малога штучнага сэрца», які забяспечвае адну галаву.

Праходзіць дзесяць доўгіх мінут. Віртуозна ўхіляе Аляксандр Вішнеўскі дэфект, падае знак асістэнтам, і тыя, не спяшаючыся, укладваюць цяпер назаўсёды пазбаўленае ад цяжкага пароку сэрца на сваё месца, сшываюць сасуды...

Так заканчваецца гэта аперацыя, першая ў свеце.

АДН

## ДЗЕННІК КАСМАНАЎТА К. 7)

# ПАРАШУТНЫЯ ВЫПРАБАВАННІ

**20 ЛЮТАГА 1963 г.** Пасля некалькіх дзён адсутнасці вярнуліся на сваю «базу». Узначальваў брыгаду Герман. Ён у нас стаў падпалкоўнікам. Пасля скачкоў многім трэба мяняць падвескі на нагрудных значках. Цяпер у кожнага «за душой» некалькі дзесяткаў скачкоў.

Цяпер успамінаецца наша першае знаёмства з інструктарам. Яго кароткая лекцыя аб значэнні парашутнага спорту, шчыра кажучы, тады не зрабіла на нас належнага ўражання, а галоўнае не выклікала ніякага захаплення. Колькасць скачкоў, якія мы зрабілі, будучы яшчэ ў страявых часцях, была даволі сціплая. Да частых скачкоў мы не прывыклі, ды і, калі сумленна прызнацца, сярод нас, бадай, не было вялікіх энтузіястаў парашутнага спорту, хоць у кожны палёт на самалёце мы бралі з сабой парашут. Такое жалезнае патрабаванне інструкцыі.

Вось і атрымаўся свайго роду парадокс: любоў да галавакружнага палёту і стрыманасць да вісення пад купалам. Нярэдка, задумваўся, чаму так атрымліваецца? Напэўна ўся справа ў псіхалогіі.

Парашут нам даецца для крайняй неабходнасці. І наўрад ці можна знайсці лётчыка, які б пакінуў самалёт, не выкарыстаўшы ўсё магчымае і нават немагчымае для выратавання машыны. Бывала ж так і ў гады мінулай вайны, ды і ў дні мірнай вучобы, калі ў паветры стваралася аварыйная сітуацыя, з якой не было выйсця, апрача катапультавання, а лётчык марудзіў. Усё выпрабуе, сабраўшы волю, мужнасць, пойдзе на рызыку, але не адмовіцца ад спробы любымі сіламі захаваць машыну — дацягнуць да аэрадрома, пасадзіць на паласу ці грунт, на «жывот» ці на адно кола.

Пазнаёміўшыся з нашымі «парашутнымі» біяграфіямі, Мікалай Канстанцінавіч (так завуць інструктара) зморшчыўся і са шчырым жалем сказаў:

— Дрэнна!

Мы маўчалі, а ён, крыху памарудзіўшы, дадаў:

— Так справа не пойдзе...

Пачалі надрабляць. Трэніраваліся на розных прыладах. Слухалі гісторыі аб парашутыстах, якія з захапленнем расказваў інструктар. А яму было што расказваць — заслужаны майстар спорту, неаднаразовы чэмпіён Саюза, удзельнік шматлікіх міжнародных спаборніцтваў. Але ўсё-такі любоў да парашутызму ішла да нас не простай шырокай дарогай, а блукаючы кружнымі шляхамі. Першы выезд на аэрадром не выклікаў радасці, але мы — народ вайсковы, калі загадана — трэба скакаць.

Перад скачкамі настрой у мяне, ды і ў другіх хлопцаў быў няважны. Потым быццам супакоіліся. Узляцелі. А калі наш самалёт падыходзіў да зададзенага раёну, сэрца зноў зашчымела. Я першы павінен быў пакінуць борт самалёта. Але хваляваўся не адзін я. Сустрэўшыся позіркам з інструктарам, зразумеў, што надышоў час. Я марудзіў, чамусьці пачаў папраўляць лямкі, потым шлемафон. Намагаўся выглядаць спакойным і абыякавым, але скакаць чартоўскі не хацелася.

І тут цвёрды і катэгарычны загад інструктара:

— Пайшоў!

Я ступіў наперад, з пачуццём, з якім чалавек ступае ў бяздонне.

Калі крануўся нагамі зямлі, захацелася паспрабаваць яшчэ раз, каб паўтарыць усё спачатку, але ўжо з поўнай свядомасцю адбываючагася.

А ёсць сярод нас і такія, хто з першага разу з лёгкай вольнасцю ішоў да люка, весела ўсміхаўся і, кінуўшы на хаду вясёлы жарт, нырай за борт.

Скакалі многа. Спачатку над стэпам, потым у ваду. Гэта аказалася не так ужо проста. За некалькі метраў да вадной паверхні трэба паспець адшпіліць карабіны лямак, выслабаніцца ад купала, каб ён цябе не накрыў, а затым з галавой пайсці пад ваду. Ніхто не ўхіліўся ад такіх «прыемнасцей».

Скакалі з-за воблакаў і ўначы. Апошнія скачкі былі зімой. У мароз на вышыні шмат халадней, чым на зямлі. Але холад не перашкода. Цяжэй скакаць уначы: зямлі не відаць, вывальваешся з люка ў цёмную невядомасць. І ўсё-такі мы прывыклі да гэтага. Скакалі спакойна, без асаблівых эмоцый. Яны, як гавораць нашы ўрачы, набылі ўстойлівы характар.

**(«Авіяцыя і касманаўтыка»). Працяг будзе.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# ВЫХАВАННЕ Ў ІНДЗЕЙЦАЎ



У глыбіні бразілійскай пушчы жыве індзейскае племя Інан, якое амаль не сустракалася яшчэ з сучаснай культурай.

Калі народзіцца хлопчык, нясуць яго ў лес для, так званага, «ядавітага выпрабавання». Маленства пакідаюць на цэлы дзень у кошыку ў месцы, дзе вядуцца ядавітыя змеі. Калі ніякая змяя не ўкусіць дзіцяці, абазначае гэта, што перад ім будучыня. Праз паўгода дзіця праходзіць наступнае выпрабаванне — «воднае». Кідаюць яго ў глыбізну, поўную драпежных рыб. Калі дзіця адразу не ўтопіцца або не заядуць яго пражэрлівыя рыбы, тады абазначае гэта, што яно спадабалася багам. Зразумела, што ў ваду акунаюць дзіця толькі на кароткую хвіліну...

І вось хлопчык дарастае да трох год. Уручаюць яму лук, якім прабуе паляваць за птушкамі. Затым памагае ў хатняй працы — носіць дровы, выбірае яйка дзікіх птушак. Увесь час ён заняты работаю. На восьмым годзе жыцця чараўнік прабівае хлопчыку губу завостранай косцю. Хаця і баліць моцна, але малыш ганарыцца гэткай першай мужчынскай аздобай. А калі хлопец дарасце да дванаццаці год, адбываецца ў ягоным жыцці пераломны момант: Свята Ініцыяцыі. Напачатку адбываецца вялікае паляванне, у якім прымае ўдзел уся вёска. У час такой урачыстасці перад сабранымі хлопцамі — дванаццацігодкамі выступае з прамовай чараўнік, які дае ім наказ, каб забыліся пра ўцехі дзяцінства і пакінулі вёску на доўгі час. Праз некалькі год забаронена ім пад страхам пакарання смерцю адведваць свае сем'і.

Пасяляюць іх у асобнай частцы вёскі, у буданах, дзе гаспадараць дзядулі, нежанатыя мужчыны і ўдаўцы. Жанчынам і дзецям сурова забаронена прыходзіць туды. Будучыя ваяўнікі спяць голымі на зямлі, харчуюцца тым, што здабудуць у паляванні; вывучаюць гісторыю племені, якую расказваюць ім старыя, вучацца абрадных спеваў, размалёўваюць цела, будуюць лодкі, вучацца распазнаваць лекавыя расліны, рабіць лукі і стрэлы. Прытым адбываецца бязлітасная фізічная трэніроўка: носяць цяжар на вялікія адлегласці, бегаюць праз джунглі, вяслуюць па рэках да ўпаду сіл, плаваюць і ныраюць у небяспечных водах. Найлепшыя і найсмялейшыя з іх назначаюцца правадырамі груп.

Юнакі вырастаюць вытрымалымі ваяўнікамі. Чакае іх яшчэ адно выпрабаванне: трэба пранікнуць на тэрыторыю суседняга варожага племені. І ў доказ таго прынесці адтуль насенне расліны, якая расце толькі ў суседзяў. У выпадку, калі трапіць ён у чужыя рукі, гіне страшнай смерцю. А калі вернецца жывым, тады становіцца сапраўдным ваяўніком. Сваё цела размалёўвае яскравымі колерамі. Але ўсё яшчэ нельга яму ўваходзіць у вёску, а толькі можа хадзіць (шпацыраваць) па наваколлі. Тым часам, за такімі шпацыруючымі маладымі ваяўнікамі пільна сочаць дзяўчаты. І калі каторай з іх спадабаецца хлопец, тады запрашае яго да хаты бацькоў. Адбываецца супольны і вельмі ўрачысты абед, пад час якога хлопец упершыню разглядае будучую жонку. Пасля абеду маладыя застаюцца тры дні без ежы. За гэты час могуць свабодна разысціся, калі адно другому не спадабаецца. Але калі ўсё адбудзецца шчасліва і малады мужчына гатоў застацца на чацвёртую ноч, тады лічыцца, што яны пажаніліся. Маладажоны пражываюць у цесця да моманту нараджэння першага дзіцяці. Затым індзеец будуе сабе ўласную хату.

Разводаў не бывае. А старыя індзейцы цвердзяць, што хуліганства сярод маладых здараецца вельмі рэдка. Вось як!

а-ся



